Далёкае — блізкае

# "Яечная" чарга нагадала халоднае лета 40-га года

Мы паступова, як чалавек, што перанёс цяжкую аперацыю, пачынаем адвыкаць ад такога неразлучнага "спадарожніка" каманднa-адміністрацыйнай сістэмы ў эканоміцы, як чэргі ў магазінах. Яны яшчэ гадоў дзесяць таму былі звыклай з'явай нашага жыцця, да чэргаў прывыклі, як прывыкаюць да суседа-алкаголіка. І хоць сёння рыначныя рэформы ў краіне ідуць з цяжкім скрыпеннем (камандная сістэма застаецца на плыву!), у магазінах, на базары, дзякаваць Богу, прадуктаў хапае і выбар ніштаваты — былі б толькі грошы. А цэны растуць хутка, нібы грыбы сёлета ў лесе. І ўжо пенсіянеры, у каго грошай хапае на хлеб, малако, кіло з два варанай каўбасы, на кватэру, толькі языкамі цмокаюць ля прылаўкаў, гледзячы на каўбасы па 180—200 тысяч рублёў за кілаграм. Якія тут могуць быць чэргі! Вось калі прывязуць іншы раз ліверку ці крывянку, тут ужо можна ўспомніць крыху падзабытае "хто крайні — я за вамі".

Не, без чэргаў мы не можам абысціся — гэта вам не "капіталістычны" Захад. Іду гэта неяк раненька, у пяць гадзін, да прыпынку прыгараднага аўтобуса, каб ехаць у лес па грыбы. Ля магазіна, дзе прадаюць золата і вырабы з яго, — чарга чалавек дзесяць, пераважна людзі пенсійнага ўзросту. Бачу там знаёмага мужчыну. Чаго ён тут так рана, цікаўлюся. Адказвае, што стаў у чаргу за яйкамі, некаторыя сюды прыходзяць у тры гадзіны ночы. Аказваецца, кожную сераду Слуцкі племптушкакамбінат дасылае сюды аўталаўку, з якой яйкі прадаюць па цане 14—16 тысяч рублёў за дзесятак. У магазіне яны — па 23 тысячы, на базары — 25. Вось і ўвесь "сакрэт" зараджэння паўночнай чаргі — выгада. Купіў дзесяткаў шэсць, прадаў на базары — глядзіш, нейкіх тысяч шэсцьдзесят "зайчыкаў" можна пакласці ў кішэню.

Тая "яечная" чарга нагадала мне халоднае лета 40-га года з яго доўгімі хлебнымі чэргамі ля гарадскіх магазінаў, бо прадукт гэты тады ў вясковыя крамы не завозілі. Ужо былі ў сіле пакт Молатава — Рыбентропа, гандлёвы дагавор паміж Германіяй і СССР. Згодна з ім свайму новаму "саюзніку" Сталін адпраўляў не толькі стратэгічныя матэрыялы, такія як медзь, нікель, свінец, а і збожжа.

Цану таго "сяброўства" двух дыктатараў слуцкія сяляне раскусілі яшчэ восенню 1939 года: на працадні ім выдалі толькі па стодзвесце грамаў зерня, таму як дзяржаўныя нарыхтоўкі на яго калгасам, у параўнанні з папярэднім годам, выраслі больш чым удвая. Баючыся рэпрэсій, старшыні калгасаў гатовы былі аддаць апошняе, пакідалі толькі зерне насеннае і сёе-тое папалам з гірсам выдавалі на працадні гаротным калгаснікам-батракам.

Ніколі не забуду, як ужо на зазімку дзядзька Міша, матчын брат, прывёз і скінуў нам у сенцы мех жыта. Гледзячы на яго, маці са слязьмі на вачах сказала: "Вось што я, дзеткі, зарабіла за год на свае працадні. Гэтага жыта нават на зацірку не хопіць да новага ўраджаю".

Ужо вясною 40-га года хлеб на стале паяўляўся вельмі рэдка, бо ў хаце акрамя маці было яшчэ шасцёра дзяцей ва ўзросце ад двух да чатырнаццаці гадоў. І ўжо ў пачатку чэрвеня, калі скончыліся заняткі ў школе, маці аднойчы надвячоркам адправіла мяне з братам за васемнаццаць кіламетраў у Слуцк — па хлеб. Наказала: "З вечара займеце чаргу. Кажуць, там цяпер знізілі нормы продажу хлеба, людзей будзе шмат".

І мы пайшлі. Цямнела, калі выбралі ў цэнтры горада магазін у нейкім скверыку. Ля яго ўжо стаяла чалавек дзесяць. Прыстроіліся і мы за нейкім пажылым вяскоўцам у даматканай суконнай світцы і лапцях. Ноч выдалася зорнай, халоднай, а мы з братам у пінжачках, басанож. Той дзядзька, калі мы прылеглі ля сцяны магазіна на траве ўздрамнуць, прысеў побач, расшпіліў сваю світку і крысом яе прыкрыў мяне. Прачнуўся я на золаку, да магазіна падыходзілі людзі, усё больш калгаснікі з прыгарадных вёсак, дзе зямля такая ўрадлівая, што казалі так: уваткні вясной аглоблю — да восені тарантас вырасце. І хлеб у сялян тутэйшых быў заўсёды, нават пры цары. А тут бясхлебіца гнала людзей у горад, у чэргі, каб купіць нейкіх два боханы жытніку. Я прыслухаўся, аб чым гавораць мужчыны-вяскоўцы. Скардзіліся на бедны працадзень, на тое, што сена для кароўкі няма дзе накасіць — усё вакол калгаснае. Пажылы чыгуначнік ціхенька, каб ніхто лішні не чуў, прагаварыўся майму суседу па чарзе, што кожны дзень праз станцыю Слуцк на Брэст праходзіць па восем-дзесяць эшалонаў са збожжам. Толькі пасля развалу таталітарнай дзяржавы стала вядома, што Сталін да нападу гітлераўскай арміі на СССР паспеў адправіць у Германію 500 тысяч тон пшаніцы. Разлік за яе пачаў паступаць з 22 чэрвеня 1941 года — бомбамі на нашы мірныя гарады і вёскі.

...Калі прыйшла прадаўшчыца і адкрыла маленькае акенца, праз якое яна падавала хлеб, у чарзе стаяла чалавек сто. Шум, крыкі, лаянкі, страшэнная даўка. Нас з братам так прыціснулі да сцяны, што дыхаць нельга было, я думаў — не вытрымаю. Але наш вячэрні "ўзнос" акупіўся тым, што мінут праз дваццаць мы ўжо трымалі ў руках па дзве цёплыя буханкі хлеба. Пакуль дайшлі да дому, паўбохана ўмялі. Астатні маці выдавала эканомна, каб расцягнуць на тыдзень. Потым зноў клікала нас з братам: "Хлопчыкі родныя, схадзіце яшчэ ў Слуцк, на стале ні скарыначкі не засталося". І зноў ішлі на ноч, станавіліся ў маўклівую чаргу, мерзлі.

Што яшчэ запомнілася з той пары? Гэта бадзёры голас дыктара маскоўскага радыё, што даносіўся з рэпрадуктара з боку будынка гарсавета, і песня са словамі "Живем мы весело сегодня, а завтра будет веселей". Мы, пацанва, тады не разумелі ўсёй несуразнасці гэтых слоў з рэчаіснасцю, з бясхлебіцай, што ахапіла Беларусь халодным летам 40-га года.

**Міхась ТЫЧЫНА.**
г.Слуцк.

Стоп-кадр

"Братва" из Костюковичей.

Фото Николая ТИТОВА.

Працягваючы тэму

# Энцыклапедычная "Памяць" без... гістарычнай памяці і гістарычнай праўды?

Поўнасцю згодны з аўтарам "Народнай волі", навукоўцам Генадзем Лагуновічам, які ў нумары газеты за 2 верасня надрукаваў артыкул "Дык хто ж скажа гістарычную праўду? Пра тое, што не ўпрыгожвае любое выданне, а тым больш энцыклапедычнае" і які на прыкладзе хібаў нядаўна выпушчанай другой часткі "Ілюстраванай храналогіі гісторыі Беларусі" паказаў заідэалагізаванасць згаданай працы. Працы, што па гэтай прычыне пераўтварылася з навуковай у псеўданавуковую.

Генадзь Лагуновіч, паказваючы ў сваім артыкуле тую акалічнасць, што "Ілюстраваная храналогія" ў другой частцы выпуску замаўчала цэлыя гістарычныя перыяды з іхнімі падзеямі і з'явамі з жыцця БССР, ускладвае за такі падыход усю адказнасць на Генадзя Пашкова — цяперашняга кіраўніка "Беларускай энцыклапедыі". Гаворыць справядліва. Хаця вельмі горка ўсведамляць, што паэт, які выкарыстоўвае і ў сваёй пісьменніцкай працы, і ў побыце беларускую мову, чамусьці "не заўважыў", як першыя кіраўнікі БССР, родныя па духу Генадзю Пашкову камуністы ў 20-ых гадах, распачалі палітыку беларусізацыі і як гэты працэс быў спынены рэпрэсіямі супраць "нацдэмаў" і русіфікатарскай рэформай роднай мовы, пасля чаго яна стала называцца "наркомаўкай".

Што, Генадзь Пашкоў не разумеў ці не ведаў, што творыць з гісторыі нашай дзяржавы аўтарскі калектыў? Ведаў і разумеў. Але жаданне ўкласці гістарычны матэрыял у Пракрустава ложа неапанславянізму — а сёння гэта стрыжань дзяржаўнай ідэалогіі — перамагло. Нібыта самое слова "беларусізацыя" прыйдзецца не даспадобы нашым расійскім суседзям і саюзнікам, а найперш — таму чалавеку, які прызначыў яго на кіруючую пасаду замест памерлага вядомага празаіка і гісторыка светлай памяці Барыса Сачанкі.

Уласна, я не хачу пераказваць увесь артыкул Генадзя Лагуновіча: мяркую, публікацыю добра запамяталі чытачы "Народнай волі". Я проста ў парадку водгуку на гэты матэрыял і ўжо на падставе новых фактаў сведчу: тое, што ўчыніла "Беларуская энцыклапедыя" з другой часткай "Ілюстраванай храналогіі", ёсць не прыкры выпадак, але пэўная тэндэнцыя, скіраваная да наўмыснага скажэння гістарычнай праўды і да яе наўмыснага ўтойвання.

Бо інакш як паказаць, што ў нашых шматвекавых стасунках з вялікай усходняй суседкай была без сучка-задзірынкі суцэльная славянская любоў і "единение"?

Дык вось, на гэты раз да Генадзя Пашкова свае прэтэнзіі прад'яўляюць таксама дасведчаныя людзі. Праўда, яны жывуць не ў сталіцы, а ў горадзе Барысаве. А прэтэнзіі іхнія тычуцца хронікі "Памяць", прысвечанай гісторыі менавіта Барысава ды Барысаўшчыны. Гэта аб'ёмістае выданне, якое ў крамах каштуе 135 тысяч рублёў за паасобнік, на думку мясцовых аматараў гісторыі роднага краю — выкладчыка Барысаўскага політэхнікума Міхася Мацельскага і былога рэдактара аб'яднанай афіцыйнай газеты "Камуністычная праца", цяпер пенсіянера-інваліда Антона Клімовіча, таксама мае заідэалагізаваны панславянісцкі характар.

У ацэнках гэтых людзей я не сумняваюся. Згадаю толькі, што Міхась Мацельскі ў сваім горадзе стварыў суполку краязнаўцаў, з якімі ездзіць у экспедыцыі, корпаецца ў архівах, выдае нават час ад часу газету "Гоман Барысаўшчыны". Антон Клімовіч яшчэ ў прысавецкія застойныя часы друкаваў падобнага роду матэрыялы на старонках "раёнкі", не зважаючы на відавочнае незадавальненне партыйных функцыянераў такімі вось публікацыямі.

На вялікі жаль, калі ў свой час кіраўнікі "Беларускай энцыклапедыі" падбіралі рэдакцыйны ды аўтарскі калектывы, то гэтыя энтузіясты засталіся незапатрабаваныя да ствральнай працы. А патрапілі туды акрамя вядомых сваімі палітычнымі поглядамі кіраўнікоў "Беларускай энцыклапедыі" Генадзя Пашкова і Алеся Петрашкевіча і мясцовыя таварышы. Напрыклад, цяпер ужо былая віцэ-мэр Барысава, функцыянерка кампартыйна-наменклатурнага ўзору, якую сёлетняй вясной прэзідэнт адхіліў ад пасады за ўдзел у вядомай "прэзентацыі", Зоя Маханёк, кіроўца справамі гарвыканкама Таццяна Дронава, яшчэ — цэлы тузін прадстаўнікоў з палітызаванай "прапрэзідэнцкага" накірунку грамадскасці з ліку прыхільнікаў бальшавіцкай ды "славянскай" ідэяў, сяброў Саюза афіцэраў і да т.п. публіка.

Вось што канкрэтна ставіць у віну складальнікам "Памяці" Міхась Мацельскі:

*— У кнізе прыведзена шмат гістарычных фактаў, якія не адпавядаюць рэчаіснасці. Так, на старонцы 29-ай сцвярджаецца: "...барысаўская зямля не аднойчы станавілася полем бою; пасяленні спусташаліся і спальваліся... у часы паходаў... Вітаўта... у 1395—1425 гадах". Што датычыцца Вітаўта, то такія выказванні аб ім, мякка кажучы, здзіўляюць. Чаму ён раптам спустошвае і спальвае свае ўласныя землі? На якіх фактах грунтуюцца такія сцвярджэнні? Гэткіх дакументаў не існуе. Наадварот, пад час кіравання Вітаўта наша дзяржава мела вялікія поспехі. У гэты час шырока ўмацоўваліся шляхі зносінаў. Гэта практычна дало другое нараджэнне краю. Больш таго, на Беларусі за ўсю гісторыю не было ніводнага яе вышэйшага кіраўніка, які пакінуў бы такі глыбокі, яскравы след аб сабе і сваёй дзейнасці ў народнай памяці. Больш чым 400 гадоў пасля смерці Вітаўта людзі ўспаміналі аб ягоных неардынарных асабістых якасцях. Хто ў нас яшчэ можа пахваліцца гэтым?*

А вось заўвага Антона Клімовіча:

*— Складальнікі "Памяці" нават умудрыліся не занатаваць у кнігу што-кольвечы пра Невядомую вайну. Калі я, шукаючы канцы, звярнуўся ў аддзел інфармацыі гарвыканкама за тлумачэннямі, то мне адказалі: маўляў, аб тым, як праходзіла вайна між Маскоўскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай на тэрыторыі Барысаўшчыны, дакументальных сведчанняў няма. Але гэта няпраўда — такія дакументы ёсць. Яшчэ ў 1995 годзе асобнай кнігай выйшла праца Генадзя Сагановіча "Невядомая вайна". І там не аднойчы памінаецца Барысаўскі край.*

Паводле калегі, аўтарскі калектыў "Памяці" пайшоў яшчэ далей дактрыны савецкай гістарыяграфіі, якая згаданую вайну падае выключна як барацьбу Расіі з Польшчай за ўз'яднанне Украіны ды Беларусі з вялікім рускім народам. А масавы вываз палонных беларусаў у Масковію (у тым ліку і барысаўчанаў) паказвае добраахвотным перасяленнем нашых продкаў да сваіх духоўна блізкіх рускіх братоў. Аўтары і рэдактары проста забыліся аб цэлай 13-гадовай вайне.

Так Невядомая вайна сталася невядомай для сённяшніх барысаўчанаў. Хаця, заўважае Антон Клімовіч, яны маглі б ганарыцца сваімі продкамі, якія ў тыя сярэдневяковыя гады стварылі ў вакольных лясах партызанскія аддзелы і змагаліся супраць маскоўскіх захопнікаў.

Міхась Мацельскі, які падтрымаў нашу гаворку пра "белыя плямы" "Памяці", згадаў, што, мусіць, не выпадкова аўтары зноў забыліся яшчэ на адну гістарычную акалічнасць, калі якраз напярэдадні другога падзелу Рэчы Паспалітай, 14 чэрвеня 1792 года, Станіслаў Аўгуст дараваў гораду Барысаву Магдэбургскае права і адмысловы герб.

— Няўжо, калі б у гэтым выданні не мелі месца гістарычная няпраўда і "белыя плямы", дык цяперашнія нашчадкі маскоўцаў закрыўдавалі б на Беларусь і прэзідэнта? — пытаецца ў роздуме журналіст Антон Клімовіч і сам жа адказвае на ўласнае пытанне: — Гісторыя ёсць такая, якая яна ёсць на самой справе. З яе трэба проста рабіць дзеля будучыні правільныя высновы, яе неабходна ведаць, а не лакіраваць, не прыхарошваць дзеля бягучых палітычных выгодаў.

На жаль, яе не вельмі ведаў аўтарскі і рэдакцыйны калектывы "Памяці".

У інакшым выпадку ў энцыклапедычнае выданне не трапілі б шматлікія памылкі факталагічнага характару.

Не сцвярджалася б, напрыклад, што ў 1430—1431 гадах пасля смерці Вітаўта паміж ягонымі роднымі-блізкімі ўсчалася барацьба за вялікакняскую карону. Але менавіта ў 1430 годзе наступнікам на Віленскім прастоле стаў Свідрыгайла. А барацьба за карону распачалася ў 1432 годзе: на Свідрыгайлу Альгердавіча быў зроблены замах каталіцкай арыстакратыі — карона перайшла да брата Вітаўта — Жыгімонта.

Вайна між Свідрыгайлам і Жыгімонтам доўжылася да лета 1435 года і скончылася яна паразай Свідрыгайлы.

Уласна, памылак гэткага кшталту болей дапушчальнага. Адзіны раздзел, да якога мясцовыя краязнаўцы не маюць прэтэнзіяў, адносіцца да гісторыі сталінісцкаенкусаўскіх хапуноў у рэгіёне, што напісалі супрацоўнікі тутэйшага музея.

Астатні ж матэрыял трэба, паводле меркаванняў Міхася Мацельскага і Антона Клімовіча, перапрацаваць, каб пад час перавыдання "Памяці" яна сталася сапраўды навуковым гістарычнам здабыткам, а не ідэалагічна-калабаранцкай белетрыстыкай.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**сябра праўлення Беларускай асацыяцыі журналістаў.**
Барысаў — Мінск.

## Дзень незалежнасці абышоўся Мікалаю Статкевічу ў 30 мільёнаў рублёў

*Днямі адбыўся суд над старшынёю Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (БСДП) Мікалаем Статкевічам.*

Суддзя сталічнага Савецкага райсуда Ала Крапіўка аштрафавала Статкевіча на 30 мільёемнаў рублёў за арганізацыю і правядзенне шэсця па праспекце Францыска Скарыны у Дзень незалежнасці — 27 ліпеня бягучага года.

На судзе ў сваё апраўданне Мікалай Статкевіч заявіў, што кіраваўся толькі рашэннем Мінгарвыканкама, якое было ўручана яму 21 ліпеня і паводле якога шэсце дазвалялася. Суддзя ж у адказ спасылалася на рашэнне, датаванае 23 ліпеня. Аднак старшыня БСДП сцвярджаў, што рашэнне ад 23 ліпеня было прынята за чатыры дні да намечанай даты шэсця і мітынгу, а гэта, як вядома, пярэчыць нават прэзідэнцкаму дэкрэту №5. Але, на думку суда, нягледзячы на тое, што рашэнне сапраўды прынята з парушэннем нормаў дэкрэта, яго належала выконваць. Такім чынам, згодна са словамі суддзі, у нашай рэспубліцы любая масавая акцыя можа быць "законна" адменена Мінгарвыканкамам за хвіліну да яе пачатку.

За дзесяць месяцаў у "архіве" і на рахунку Статкевіча тры адміністрацыйныя арышты (усяго 35 сутак і штраф).

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

Крымінал

## "Вакзал" на карысць усіх

У арсенале супрацоўнікаў транспартнай міліцыі нямала спецыяльных планавых мерапрыемстваў, накіраваных на ўзмацненне барацьбы са злачыннасцю і прафілактыку правапарушэнняў. Да іх ліку можна аднесці і апошнюю аперацыю "Вакзал".

Як адзначыў намеснік начальніка аддзела аховы парадку і прафілактыкі Упраўлення ўнутраных спраў на транспарце Вячаслаў Лойка, праводзілася яна з мэтай аздараўлення аператыўнай абстаноўкі, папярэджання і раскрыцця злачынстваў, умацавання аховы парадку на аб'ектах чыгуначнага і паветранага транспарту рэспублікі.

У выніку на прывакзальных і станцыённых аб'ектах былі затрыманы 1502 правапарушальнікі. Сумесна з воінамі і членамі ДНД супрацоўнікі міліцыі забяспечылі ў гэтыя дні суправаджэнне 798 цягнікоў. У іх таксама прадухілены шэраг проціпраўных дзеянняў, затрыманы 270 правапарушальнікаў. Пад узмоцнены кантроль былі ўзяты 790 прадпрыемстваў і арганізацый чыгуначнага і паветранага транспарту.

У час гэтай чатырохдзённай аперацыі выяўлена і раскрыта 31 злачынства. У злачынцаў канфіскавана 4 адзінкі зброі, патроны розных калібраў. Найбольш узброеным быў грамадзянін, затрыманы ў ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікамі Віцебскага АУСТ. У яго канфіскавана вінтоўка нямецкай вытворчасці з 65 патронамі да яе.

Крыху "прафільтравалі" міліцыянеры-транспартнікі і каналы наркабізнесу, канфіскаваўшы ў перавозчыкаў звыш 10 кілаграмаў наркатычных рэчываў. Самы вялікі "ўлоў" прыйшоўся на долю супрацоўнікаў АБЭЗ Гродзенскага АУСТ, якія на станцыі Скідаль у непрацуючай жыхаркі Смаленска знайшлі 9 кг 300 г здробленай макавай саломкі і шпрыц для ін'екцый.

**Сяргей ЦІВАНАЎ, БелТА.**

Фестывалі

## Фонды Беларускай нацыянальнай бібліятэкі захавалі і рэдкасную яўрэйскую кнігу

*Гэтымі днямі ў Мінску праходзіць Тыдзень яўрэйскай кнігі, арганізаваны шэрагам грамадскіх ізраільскіх арганізацый Беларусі.*

З разнастайнай праграмы фестывалю хочацца адзначыць адно, напэўна, з самых цікавых мерапрыемстваў, якое адбылося ў Беларускай нацыянальнай бібліятэцы, — выставу з фондаў аддзела яўрэйскай літаратуры, існаваўшага да Вялікай Айчыннай вайны ў бібліятэцы Мінска, якая мела назву Ленінскай.

З некаторымі унікальнымі кнігамі, беражліва захаванымі супрацоўнікамі бібліятэкі, можна было пазнаёміцца на гэтай выставе. Сярод іх рэдкаснае выданне "Шульхан" 1559 года на старадрукаванай мове, рукапісы XVIII стагоддзя, кнігі, выдадзеныя на іўрыце, на беларускай і рускай мовах у пачатку XX стагоддзя, некаторыя нумары штодзённай газеты "Еврейский рабочий", якая выходзіла ў Санкт-Пецярбургу ў 1906 годзе, і іншыя.

Пасля адкрыцця выставы прадстаўнік Амерыканскага яўрэйскага аб'яднанага размеркавальнага камітэта "Джойнт" Зееў Абрамсаў і першы сакратар Ізраільскага пасольства на Беларусі Галя Кеслер падаравалі Беларускай нацыянальнай бібліятэцы кнігі па гісторыі і фальклору яўрэяў Беларусі, а таксама па гісторыі і геаграфіі сваёй краіны.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

Дурноты

## Рыгор БАРАДУЛІН

### Харызматык

*Адзін усім стўляе клізму —*
*І гэта лічацца харызму!*

### Каб бачылі!

*За службу служаку*
*Адвалиць павяку,*
*Каб вочы зайздроснікаў*
*Бачылі:*
*Са скуры тывалай*
*Нашыйнік абаку,*
*Наручнікі –*
*Сябру сабачаму!*

### Сімвалісты

*Базарнага сацыялізму прыступы*
*Адчулі падчарэўем бугаі*
*Сацрэалісты сталі сімвалістамі —*
*Сімволіку талкуюць*
*Талкуі..*

### Палкаводцы

*Старшыні калгасныя ды брыгадзіры —*
*Яны палкаводцы,*
*Бо палкай вадзілі*
*На подзвіг працоўны*
*Прыгоннае войска.*
*Прыгоннікаў палкіх*
*Запомніла вёска.*

### Дзякуй!

*Скалгашваць, гулажыць,*
*Спяшацца ў жабрацтва,*
*Куляцца ў равы*
*Дапамагалі нам*
*З радасцю брацкай*
*Засланцы з Масквы.*

### Махляры

*Бралі чэсна ў цары махляра,*
*Дурні*
*Мудра хацелі дурнога цара.*
*Ну а тыя,*
*Што мелі цара ў галаве,*
*Знаді —*
*Цар без цара ў галаве*
*Пражыве!*

### Выміраты

*Мы ўсе, ў катэджах*
*Ці ў дзюравых хатах,*
*Жывем*
*У Беларускіх Вымíратах.*
*Мы на караты*
*Ліха вымяраем,*
*Адбыўшы рату,*
*Ціха выміраем.*

### Паслалі б...

*Каб дзеці бацьку*
*Выбіралі самі,*
*Яны б таго, ў якога*
*Не ўсе дома,*
*Паслалі б з радасцю*
*К няроднай маме,*
*Як некалі*
*З пуцёўкаю райкома.*

### У выніку

*Кот праводзіў рэферэндум —*
*Клапаціўся пра мышэй.*
*Мышы верылі легендам*
*І пішчэлі ўсё цішэй...*

### Праходзяць...

*Гісторыю не здзіваць дурыкі,*
*Яна — асобая асоба.*
*Праходзяць рурыкі ды шурыкі,*
*Як і здзіўленне*
*Ці хвароба...*

### Прагназёр

*Дакажа лёгка*
*Бабнік-сацыёлаг,*
*Што ўсе мужчыны*
*За паненак голых,*
*І ўсе калгаснікі за старшыню,*
*Што брэша й верыць*
*У сваю брахню.*
*Пакуль гукае зорку*
*Астраном,*
*Дык прагназёр*
*Шыбуе ў гастраном.*

### У абарону двухпалатнасці

*Калі парламент буйнарагат,*
*Ад знаці*
*І ў верхняй*
*І ў ніжняй палаце*
*Гучыць канструктыўна*
*Адзін загад:*
*— Лёкай, падай мне лапці!*

По существу

# В духе незабвенного Геббельса, или Мысли вслух о "шалостях" доморощенных антисемитов

В Минске в этом году стала выходить газета "Личность" (учредители — Н.Д.Улахович, Г.Г.Рузова, главный редактор — Г.Г.Рузова). Печатается в привилегированной типографии издательства "Белорусский Дом печати", которое подчиняется Управлению делами президента Республики Беларусь. Еще бы! Газета восхваляет правление Александра Григорьевича и бранит оппозицию. Несмотря на претенциозное название, "Личность" вряд ли стала властительницей умов: крайне низкий литературный уровень, примитивизм, разухабистый, на грани площадной ругани тон, убогость содержания. Но так хочется привлечь читателей к новоявленной газете, так велико искушение подбросить что-нибудь жареное, что редакция решила выпустить в очередной полет изрядно ощипанную антисемитскую утку. В №№13, 14 читаем (орфография сохранена):

"По непроверенным данным, подразделения "Бейтар" (еврейские полувоенные организации) планируют в ближайшее время попытку физического устранения Президента Беларуси. Как нам сообщил источник, рассматриваются два способа: снайперская винтовка и психонасилие. Надеюсь, что доблестная служба безопасности будет на высоте, а "демократические белоруссы", как всегда, окажутся в огромной луже, где, впрочем, им самое и место".

При чем тут "демократические белоруссы" — непонятно. Видимо, пылая ненавистью к демократии, автор этой "сенсации" (подпись "Алесь Диктатуров") намекает на широкую сеть заговора против любимого президента. Подумать только: не какие-нибудь одиночки, а целые подразделения евреев-боевиков орудуют в Беларуси! Правда, автор при этом делает оговорку: "по непроверенным данным". Расчет нехитрый. Главное внимание читателей будет привлечено не к этой оговорке, а к сенсации: злодеи из Бейтара готовят покушение на президента страны! Неважно, что это дикая чушь. Авось, в обывательских мозгах она осядет. Как в старом анекдоте про Рабиновича. На собрании общины он заявил, что дочь раввина — проститутка. "Но у меня нет дочери!" — воскликнул ошарашенный раввин. "Ну и что, — пожал плечами Рабинович. — Мое дело — сказать". В том же духе действует и означенная газета. Однако фантазия автора довольно убога. Подготовка покушения на драгоценную жизнь Александра Григорьевича некими бейтаровцами... Зачем?!! Белорусские власти отнюдь не препятствуют выезду евреев в Израиль.

Бейтар как организация в Беларуси ныне не существует. Была в 1992—1994 годах, насчитывая десяток-другой юношей и девушек, преимущественно студентов. Они изучали иврит, историю и традиции своего народа, работали вожатыми в летних детских лагерях и, как всякие молодые люди, устраивали вечеринки, танцевали. С отъездом этих ребят в Израиль на постоянное место жительства Бейтар в Минске прекратил свое существование, а в других городах нашей республики его просто не было.

Таковы факты. Но поскольку речь о Бейтаре как организации, уместна историческая справка. Бейтар — аббревиатура "Брит Йосеф Трумпельдор" — "Союз имени Йосефа Трумпельдора". Иосиф Трумпельдор — герой еврейского народа. Участник русско-японской войны. Потеряв руку при обороне Порт-Артура, вернулся в строй. За храбрость награжден всеми четырьмя Георгиевскими крестами, получил недосягаемый в то время для еврея чин прапорщика. В 1912 году уехал в Палестину и создавал там первые сельскохозяйственные поселения — кибуцы. Трудился на полях простым рабочим. В 1915 году в составе еврейского воинского формирования участвовал в боях против турок. Приехав после октябрьского переворота в Россию, организовал молодежное движение по подготовке молодых людей к переселению на свою историческую родину. Затем снова вернулся в Палестину. В марте 1920 года возглавил оборону еврейского поселения Тель-Хай и геройски погиб в бою. Вскоре после его гибели в честь этого отважного и благородного человека и был создан Бейтар. Это молодежная сионистская организация. Цель ее — сплочение еврейской молодежи вокруг своего национального очага, ныне Государства Израиль. И ничего больше.

Юдофобствующие авторы уже не впервые пытаются напугать обывателя злокозненными происками воинственного Бейтара. Особенно в этом усердствуют черносотенные газеты, издающиеся в России, многие из которых открыто продаются в Минске. К сожалению, в тиражирование этих вздорных и злобных обвинений включились и некоторые средства массовой информации Беларуси. Так, 9 августа 1994 года "Народная газета" опубликовала заметку о том, что якобы на Комсомольском озере функционировал лагерь Бейтара. "По словам очевидцев, — говорилось в заметке, — участники сборов были одеты в военную форму и головные уборы с шестиконечными звездами. Особое внимание бетаровцы уделяли рукопашному бою и идеологической закалке".

Прочитав такое, в Белорусском объединении еврейских организаций и общин, мягко говоря, удивились. Какой лагерь, какой Бейтар на Комсомольском озере? Обзвонили всех еврейских молодежных лидеров. Ну, конечно же, очередная утка. "Народная газета" в номере за 1—3 октября опубликовала статью Александра Гальперина "Кому мерещатся призраки на Комсомольском озере" и принесла извинения своим читателям. Там же было напечатано извинительное письмо автора злополучной заметки. "Я искренне сожалею..."

Казалось бы, урок предметный. Ан нет. В августе прошлого года газеты "Знамя юности" и "Белоруссия" перепечатали новые "разоблачения" страшного Бейтара. На сей раз они принадлежали В.Жириновскому, который утверждал:

"Как ни в какой республике бывшего СССР в Беларуси чрезвычайно многочисленная и влиятельная еврейская диаспора, зловещее наследие Польши. На базе этого сформированы бейтаровские отряды на телевидении, на радио, во всех средствах массовой информации. Именно этим кадрам отведена роль запала, дрожжей атакующего авангарда операции ЦРУ".

Как видим, в число врагов Беларуси попала вся еврейская диаспора республики — от младенцев до стариков. И, конечно же, закоперщик заговора — Бейтар.

Об антисемитских измышлениях, как и других фактах антисемитизма в Республике Беларусь, неоднократно выступал с заявлениями президент Белорусского объединения еврейских организаций и общин Леонид Левин. Однако белорусские власти сквозь пальцы смотрят на "шалости" доморощенных антисемитов. Там, где надо власть употребить, поразительные слепота и глухота.

Опровергать юдофобскую паранойю, злобную, вонючую, все равно что доказывать — это не духи фирмы "Шанель". Но тем, кто так и норовит плеснуть очередное ведерко бензина в тлеющие угольки антисемитизма, не нужны никакие доказательства. Для них главное — разжечь антисемитскую истерию, вбить в массовое сознание идею о зловредности евреев, идею, которая в конечном итоге привела в годы второй мировой войны к уничтожению 6 миллионов людей только за то, что они родились евреями. Но прежде чем запылали сатанинские печи крематориев в освенцимах и майданиках, прежде чем айнзацкоманды принялись за свое злодейское дело у расстрельных рвов, фашистская пропаганда усердно вколачивала в мозги обывателей, в том числе и на территории оккупированной Белоруссии, что евреи — злейшие враги человечества и только тем и занимаются, что чинят всяческие козни православному люду.

У газеты, называющей себя "Личностью", есть с кого брать пример. Весьма забавно, что на ее первой странице — эпиграф: "Личность характеризуется не только тем, что она делает, но и тем, как она это делает". Применительно к "сенсации": о Бейтаре газета сама себе дала характеристику. Подогревая антисемитские страсти, она делает грязное дело. И как делает? Естественно, подлыми методами, взятыми из арсенала незабвенного Геббельса.

**Михаил НОРДШТЕЙН.**

Подробности

## "Антиквариата" у Антончика больше нет. Остались лыжи. Пока еще, правда, непросмоленные...

*Не так давно в "Народной воле" под рубрикой "Где же Вы теперь?" мы рассказывали о Сергее Антончике, ожидающем изъятия остатков домашней утвари. Сообщаем: очередной рейд описи скромных пожитков боевого депутата не заставил себя долго ждать — 8 сентября в квартире Сергея Антоновича появились судебные исполнители.*

Напомню, что в прошлом году в счет погашения двухсотмиллионного иска Ивана Ивановича Титенкова у семейства Антончиков вынесли кухонный гарнитур, диван и два кресла. В нынешнем году представители суда республики себе не изменили. На новом, а точнее — практически антикварном диване и двух креслах семейства Антончиков теперь, наверное, будет почивать управляющий делами президента...

— Диван — вещь в доме, согласитесь, нужная. Как, впрочем, и кресла. Сам я, конечно, могу сидеть и на табуретке. Но гостей, приходящих в дом, хочется принять более-менее по-человечески... К слову, по дивану, который у нас изъяли в прошлом году, мы с супругой горевали долго: мы его приобрели в 1982 году и за десятилетие он полюбился нам своим мелодичным поскрипыванием... А диван, который описали сейчас, покупала жена. Ее подруга делала в квартире капитальный ремонт и меняла буквально всю старую мебель на новую. Чтобы не выбрасывать свой уже достаточно преклонного возраста диванчик на свалку, она продала его нам. За довольно-таки символическую цену. По закону, через десять дней придут эту рухлядь выносить...

В принципе, если мою мебель выставить на аукцион с табличкой "Антиквариат Антончика", можно, наверное, заработать неплохие деньги...

Больше ходового товара (диванов и кресел) у Антончиков не осталось. Есть, правда, еще четыре табуретки и два мягких стула. И лыжи. Но для них, видимо, еще не пробил час. Не сезон, видите ли... Поэтому в ближайшее время Сергей Антончик намеревается их просмолить и смазать. Чтобы Ивану Ивановичу угодить и к зимнему рейду подготовиться...

**Марина КОКТЫШ.**

Судовыя ўрокі

## Выпадковая сустрэча

Аркадзь нідзе не працаваў. Часта бавіў час на прывакзальнай плошчы. Швэндаўся ён тут і ў той дзень. Выпадкова пазнаёміўся з жанчынай, якая назвала сябе Валяй. Купілі ў складчыну бутэльку гарэлкі, выпілі і пачалі разам прагульвацца ля стаянкі таксі.

Тут і сутыкнуліся з другой парай. Разгаварыліся. Жанчына назвала сябе Саідавай, а мужчына — Сяргеем. Разам сталі кумекаць, як лепей правесці час.

Забягаючы наперад, варта адзначыць, што Сяргей нарадзіўся ў Чымкенцкай вобласці, рускі, ужо пабываў на лаўцы падсудных. У дадзены час нідзе не працаваў, пражываў у Гомелі. Саідава — азербайджанка, таксама нідзе не працавала. Як яны трапілі ў Мінск? Абодва так і не змаглі нічога канкрэтнага адказаць. Проста селі ў цягнік, вырашылі "пагуляць" у беларускай сталіцы.

Як толькі госці з Гомеля ступілі на прывакзальную плошчу, іх вопытныя позіркі адразу спыніліся на падвыпіўшай пары, якая шпацыравала ўздоўж стаянкі таксі.

Далей падзеі развіваліся па вядомаму сцэнарыю. Купілі ў складчыну пару бутэлек гарэлкі і выпілі за знаёмства. Пасля чаго мінчанін прапанаваў праведаць яго знаёмую, у якой заўжды ёсць чарка і да яе. Гасцям з Гомеля вельмі спадабаўся такі варыянт.

Гаспадыня кватэры Кацярына з радасцю сустрэла Аркадзя і яго спадарожнікаў. Усе па чарзе абдымаліся з ёю і праходзілі на кухню. Аркадзь нарэзаў закуску, жанчыны мылі посуд.

Пасля чарговай пары кілішкаў Аркадзь і Валя зачыніліся ў спальні. Праз які час туды зазірнула гаспадыня, каб паглядзець, чым яны займаюцца. Выбегла адтуль усхваляванай і раздражнёнай, закаціла істэрыку з нагоды нібыта прапаўшай шакаладкі. Саідава з Сяргеем ледзь супакоілі яе. Налілі, выпілі. Тут ужо зацікавілася Саідава: што ж магло так раззлаваць гаспадыню? Вырашыла сама схадзіць у той пакой і ўсё высветліць. Пара "займалася каханнем". Відаць, гаспадыню ахапіла рэўнасць.

Калі Саідава вярнулася на кухню, яе дружок ужо накінуў пінжак на галаву гаспадыні і душыў яе. Як пазней ён тлумачыў у судзе, яна зноў закаціла істэрыку і ірвалася ў той пакой. Ён трымаў яе і затыкаў рот анучай, каб не "арала" і не раздражняла. Не дапамагло. Накінуў на галаву пінжак, каб не чуць яе крыку. Убачыўшы Саідаву, папрасіў яе патрымаць раз'юшаную гаспадыню. Сам жа звязаў ёй рукі, накрыў галаву пінжаком, каб меней былі чутны яе крыкі. Нарэшце, не вытрымаў і папрасіў напарніцу прынесці нож. Ім ударыў у шыю гаспадыні. Тая некалькі разоў цяжка ўздыхнула і заціхла.

Ён памыў рукі і зазірнуў у той пакой. Аркадзь ужо храпеў, а Валя задумліва глядзела ў столь. Сяргей прылёг, задаволіў сваю патрэбу. Пасля чаго забраў нагавіцы, боты Аркадзя, які спаў. Прыхапілі каштоўныя рэчы гаспадыні і пакінулі яе кватэру.

Каля рынка прадалі частку рэчаў, купілі гарэлкі і закускі... Тым часам прачнуўся Аркадзь. Ён ніяк не мог знайсці ў кватэры нагавіцы і не ведаў, як выйсці без іх на вуліцу. А калі ўбачыў на кухні ў крыві гаспадыню, моцна спужаўся. У судзе ён прасіў спагнаць з падсудных Сяргея і Саідавай грошы ў лік маральнай траўмы, якую яму тыя нанеслі.

А хто ж такая гаспадыня кватэры? Яна гандлявала півам на Камароўцы, жыла адна. У яе нярэдка збіраліся выпадковыя вясёлыя кампаніі. Так было і ў той дзень. З яе кватэры даносіўся смех, лаянка... Чарговая выпіўка з сумніўнай кампаніяй закончылася для яе трагічна.

Суд прыгаварыў Сяргея да дванаццаці, а Саідаву да васьмі гадоў пазбаўлення волі.

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

